

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4 (17) Красавік 1995 April Год выд. 3


## УВАСКРАСЕНЬНЕ ХРЫСТОВА

Ісус Хрыстос перад сьмерцю сказаў сваім мучыцелям: — На трэйці дзень я ўваскрэсну. Яны помнілі гэта, таму дамавіну з целам Хрыстовым занесьлі ў глыбокую пячору, закрылі ўваход вялізным каменем, паставілі сваю пячатку. А каб надзейней было, загадалі воінам вартаваць уваход у пячору.

Але здарылася ўсё, як і прадказаў Ісус Хрыстос.

З сыботы на нядзелю адбылося страшнае землетрасеньне. Сышоў з неба анёл. Твар яго зіхацеў, што маланка, адзеньне было белае, што сьнег. Воіны-вартаўнікі ад страху паразьбягаліся хто куды. У гэты час анёл адваліў ад пячоры камень. Ісус Хрыстос паўстаў з магілы.

Пачынаўся новы дзень — нядзеля. Вось яна і стала вялікім сьвятам народным — Вялікаднем, днём уваскрасеньня Ісуса Хрыста, нашага Выратавальніка.

У гэты дзень людзі вітаюцца замест звычайнага "Дзень добры" яны кажуць:

— Хрыстос Уваскрос!

Той з кім так вітаюцца, адказвае:

— Запраўды Ўваскрос!

## *ХРЫСТОС УВАСКРОС!*
### *ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*
### РАДУЙЦЕСЯ!



Хрыстос уваскрос із мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў, і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў.

Хоць Ты ў магілу зыйшоў, Несьмяротны, але пякельную сілу зьнішчыў і ўваскрос, як Пераможца, Хрысьце Божа, і жанчынам-міраносіцам сказаў: "Радуйцеся!", і мір даў апосталам Сваім і памерлым увасрасеньне падаў.

Гэта той дзень, што стварыў яго Бог: будзем цешыцца і весяліцца ў ім.

Дзякуйце Госпаду, бо Ён добры, бо навекі міласэрдзе Ягонае.

Ты ўваскрэсьнеш, зьлітуешся над Сыёнам.

Хвалеце Госпада з нябёс, хвалеце Яго на вышынях.



## <u>*НАМ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ...*</u>

У законе Беларусі "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" ў артыкуле 6-ым "Мова сродкаў масавай інфармацыі" гаворыцца, што: "Пэрыядычныя друкаваныя выданьні і іншыя сродкі масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь ажыцяўляюць сваю дзейнасьць на дзяржаўнай мове, а таксама на іншых мовах у адпаведнасьці з Канстытуцыяй Беларусі і дзеючым заканадаўствам".

*****

Прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка прапанаваў Вярхоўнаму савету самараспусьціцца. Прэзыдэнт таксама "сур'ёзна" працуе над правядзеньнем усеагульнага рэфэрэндума па справах "двухмоўя, адмене нацыянальнае сымволікі і далучэньня Беларусі да Расеі"

Такія навіны з Беларусі выклікаюць неўразуменьне і страх. За дзейнасьцю беларускага прэзыдэнта апошнім часам пачалі сачыць палітычныя дзейнікі Заходу.

*****

У часе візыту ў Жамойць (Летуву) Прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка выступіў у сэйме **на беларускай мове.** Як добра, што ў старой сталіцы Беларусі – Вільні загучала ў сэйме беларуская мова.

А на якой мове гаворыць прэзыдэнт Беларусі ў Менску?!.

## Ці вінавата незалежнасьць у нашым сёньняшнім гаротным жыцьці?

Амаль усе народы былога СССР зразумелі, што адрадзіцца можна толькі на нацыянальнай ідэі, што ў сваёй маленькай асабістай хаце намнога лягчэй навесьці парадак, чым у вялікай агульнай камунальнай кватэры. Тыя, хто зразумеў гэту ісьціну першым, сёньня ўжо жывуць палюдзку. Апошнія да гэтай пары ня могуць вылезьці з дрыгвы. Беларусы, нажаль, гэтага яшчэ не зразумелі.

Сёньня многія абвінавачваюць незалежнасьць у нашым гаротным жыцьці. Не, не незалежнасьць тут вінаватая. Проста тое, што робіцца сёньня, трэба было зрабіць яшчэ пяць гадоў таму назад, калі мы былі яшчэ ў "рублёвай зоне" і калі было яшчэ адносна многа тавараў. А ў астатнім мы адстаём ад Чэхіі, Польшчы, Прыбалтыкі ўжо гадоў на дзесяць. Суседзі правялі лібералізацыю цэн, а з ёю і павышэньне зарплаты. Мы-ж стрымлівалі і тое, і другое. Нам падсунулі "пустышкі" — карткі спажыўцоў і талоны, якія ляжаць нявыкарыстанымі да гэтай пары. За мяжу пацяклі статкі жывёлы, каб "здацца" там па больш высокіх закупачных цэнах. Цягнікі з Беларусі ператварыліся ў "каўбасныя". Тыя людзі, якія аказаліся бліжэй да размеркавальнага "карыта" у той час, сёньня будуюць палацы. Што-ж, падзякуем нашаму мудраму кіраўніцтву — тав. Кебічу, Мясьніковічу, Лінгу — за тое, што яны абаранілі малазабясьпечаных грамадзян краіны ад "дзікага рынку".

Расея даволі хутка зразумела свае геапалітычныя інтарэсы і пачала праводзіць у адносінах да "сясьцёр" па СНД палітыку, якая нагадвае неакаланіяльную палітыку США ў адносінах да краін Лацінскай Амэрыкі. Спачатку расейскі ўрад выкінуў нас з адзінай рублёвай зоны. Успомнім, пры якіх абставінах зьявіліся "зайчыкі", якія сёньня праклінаюцца. Грошай проста ня было, і таму хуценька зрабілі ім замену. Потым урад Расеі вызваліў цэны на энерганосьбіты, і пачалося фарсіраванае іх давядзеньне да ўзроўню сусьветных. Для сваіх прадпрыемстваў цэны на энерганосьбіты былі ўстаноўлены значна ніжэйшыя, хоць ня толькі адна Расея прымала ўдзел у стварэньні нафтавых і газавых комплексаў. Усе краіны СНД ператварыліся ў "дойную карову" Расеі. Сёньня пры скарачэньні ўзроўню вытворчасьці насельніцтва Расеі жыве лепш, чым астатнія краіны СНД. Разьлік просты: спачатку выдаіць суседзяў і за кошт іх зьберагчы стабільнасьць у самой Расеі, а потым узяць іх цёпленькімі (даруйце, халоднымі, пад час якой-небудзь лютай зімы). Сёньняшні суверэнітэт Беларусі выгадны Расеі, а там будзе відаць...

Мы ня можам нават распарадзіцца сваім галоўным багацьцем — талентам народным і выгадным геаграфічным становішчам. Сёньня кіраўнікі ад нашага імя рыхтуюцца падпісаць чарговы "цуд" — "мытны саюз". У артыкуле 2 дагавора запісана пра фармаваньне наднацыянальнага органа, у якім 90% галасоў будзе мець Расея. Мне такое "раўнапраўе" уяўляецца вельмі дзіўным, калі не сказаць больш. А ці можна параўнаць колькасьць грузаў, якія вязе па нашай тэрыторыі Расея ў трэйція краіны, і мы — па расейскай? І пры гэтым мы згаджаемся на "раўнапраўнае" адмаўленьне ад транспартных падаткаў і фактычна ператвараемся ў "транспартны калідор" для Расеі! Дык ад чаго адмаўляемся? Разумныя людзі падлічылі, што — ад 120 долараў на чалавека ў месяц. Менавіта столькі Расея не плаціць нам за транзіт. Дык ці можна быць заможнымі і адначасова такімі шчодрымі?

Калі суверэнітэт азначае толькі тое, што мае сыны не будуць паміраць у Чачні і на афганскай граніцы, то я гатовы змагацца нават за такі суверэнітэт. Я ня стану мяняць незалежнасьць на кавалак сыру па расейскіх цэнах у мышалоўцы. А тых, хто ў сваіх інтарэсах і ў інтарэсах чужой краіны фармуе міф аб "залатым веку", трэба спыніць. Хопіць дурыць беларускі народ!

Юры Клінцоў

*(з газэты "Беларускі Час")*



# Выйсце — стварэнне нацыянальнай школы

"Наша Слова"

Чаму так марудна ідзе працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці, увогуле нацыянальнай годнасці, нацыянальнага прагматызму і беларускага патрыятызму? Вядома, просты чалавек у пераважнай большасці выпадкаў застаецца яшчэ палітычна і гістарычна непісьменным — Бог яму суддзя. Але адкуль столькі нігілізму ў адносінах да сваёй дзяржавы ў нашых кіраўнікоў — людзей адукаваных, якія павінны рабіць усё магчымае для адраджэння роднай мовы і гістарычнай памяці?

Мяне асабліва палохае правінцыяналізм кіраўнікоў Беларусі. Возьмем, напрыклад, нядаўнія выказванні нашага Прэзідэнта аб тым, што беларускія падручнікі па гісторыі — нацыяналістычныя, таму іх трэба прама з друкарскага варштата перарабляць на макулатуру. Цікава было б паставіць пытанні шаноўнаму Прэзідэнту: ці бываюць падручнікі па нацыянальнай гісторыі ненацыяналістычныя, які ўвогуле сэнс укладвае ён у згаданае паняцце?

Калі стаць тут на пазіцыю Прэзідэнта, то ненацыяналістычным гістарычным падручнікам па айчыннай мінуўшчыне, відаць, акажацца толькі той, дзе прыніжаецца годнасць беларусаў, дзе каты беларускага народа тыпу Пятра І і А.Суворава паказаны нацыянальнымі героямі, а маскоўская крывавая навала 1654—1667 гадоў, у выніку якой загінуў кожны другі беларус, абвяшчаецца вызваленчай вайной.

Летась па-ранейшаму ўладамі дзе забаранялася, дзе ціха сабаціравалася свята гістарычнай перамогі 30-тысячнага войска нашай дзяржавы 8 верасня 1514 года над 80-тысячным войскам маскоўскага цара пад Оршай. Афіцыйная падстава для гэтага проста смешная: ушанаванне перамогі пагоршыць адносіны з Расіяй. Але ж, напрыклад, кіраўнікі Вялікабрытаніі едуць у ЗША святкаваць адлучэнне сваіх былых трынаццаці калоній, якое ажыццявілася ў выніку барацьбы амерыканскага народа за незалежнасць. Заўважым, што ў той вайне загінула шмат англійскіх салдат. Ці возьмем гістарычныя стасункі немцаў з французамі. Гэтыя народы маюць таксама агульныя карані, бо іх дзяржавы і нацыі ўтварыліся пасля распаду імперыі Карла Вялікага. На працягу многіх стагоддзяў яны пастаянна варагавалі. Але мінулае ані не перашкаджае ім зараз з'яўляцца надзейнымі і трывалымі партнёрамі па ваеннаму і эканамічнаму саюзах. Іх супрацоўніцтву зусім не замінаюць святкаванні колішніх перамог аднаго над другім. Дык чаму ж наша свята перамогі пад Оршай павінна пагоршыць нашы адносіны з суседняй краінай? Калі тут строга прытрымлівацца логікі, то Расія ў сваю чаргу не павінна святкаваць, скажам, даты выгнання іншаземцаў з Масквы апалчэннем Мініна і Пажарскага, бо тыя «іншаземцы» — нашы суайчыннікі-продкі.

Прэзідэнт Латвіі нядаўна падкрэсліў, што адносіны яго краіны з Расіяй не палепшацца да таго часу, пакуль апошняя не перастане называць Прыбалтыку «ближним зарубежьем». Наш жа Прэзідэнт падчас тэлеперадачы «Момент истины» некалькі разоў называў Расію «старшим братом». Гэта яскрава сведчыць аб тым, што мы пры цяперашнім кіраўніцтве не падымемся да раўнапраўных адносін з суседняй краінай. Ці А.Лукашэнка забыўся, што ён — не прыватная асоба, а Прэзідэнт суверэннай краіны? Не ведаю, але мне за Бацькаўшчыну было вельмі сорамна.

Сёння ўвесь свет адраджаецца на нацыянальнай ідэі, а беларус бяжыць ад яе, усё яшчэ чапляецца за «общечеловеческие ценности», паводле якіх правы асобы ставяцца вышэй за правы нацыі. Але ж на Беларусі прыярытэт згаданых агульначалавечых каштоўнасцей азначае стаўленне правоў каланізатараў вышэй за гістарычныя правы мільёнаў абрабаваных і заняволеных карэнных жыхароў Беларусі. Такім чынам, вынікае, што ў нас роўныя правы мае чужая мова, гвалтоўна прынесеная сюды заваёўнікам, з мовай карэннай — рэпрэсаванай, якую вякамі знішчалі. Дык няўжо ў такім выпадку гвалтаўнік-злачынца мае роўныя правы са сваёй ахвярай? Не зважаючы на гэта, у руху да «общечеловеческих ценностей» мы, здаецца, наперадзе ўсіх астатніх.

Паглядзіце на краіны суседняй Прыбалтыкі. Там усе карэнныя народы аб'ядналіся на ідэі свабоды і незалежнасці. Ім было вельмі цяжка, бо яны былі першыя. Расія, вядома, не любіць іх, але вымушана паважаць. Рахманая ж Беларусь паступова ператвараецца ў «транспартны калідор» і «пярэдні край» Расіі.

Дык чаму ж мы, беларусы, такія? Чаму мы танцуем на магілах сваіх продкаў, ды яшчэ і цешымся гэтым? Няўжо нашы продкі даўней таксама былі такімі? Не! Аб гэтым яскрава сведчаць шматлікія паўстанні беларускага народа супраць захопнікаў і прыгнятальнікаў. Беларускі гісторык М.Доўнар-Запольскі ў 1919 годзе пісаў пра нашых прадзедаў: «Жаданне збудаваць сваю дзяржаўную незалежнасць; уменне бараніць яе, жаданне дайсці да вольнага дэмакратычнага ладу — вось асноўныя рысы гістарычнай мінуўшчыны беларускага народа. І мы не ведаем другога славянскага племя, у якога гэта рыса выявілася б ярчэй, чымся ў нашых прашчураў».

У сістэме каштоўнасцей любой цывілізаванай краіны першае месца належыць патрыятызму. Гэта азначае, што родная дзяржава разглядаецца як вышэйшая каштоўнасць, што абавязак кожнага грамадзяніна — у добрасумленным служэнні сваёй дзяржаве.

Начым трымаецца патрыятызм? Адказ адназначны — на прыватнай уласнасці, на гістарычнай памяці і нацыянальнай мове, на бескарыслівай любові да роднай зямлі і яе культуры. У сувязі з гэтым лічу, што «савецкі патрыятызм» абавязкова і незабежна павінен саступіць месца нацыяналізму. «Нацыяналізм» — гэта зусім не сінонім нацызму і фашызму, а сінонім высакароднага паняцця «патрыёт». Усе рэспублікі былога СССР і ранейшыя савецкія сатэліты Усходняй Еўропы ўжо дайшлі да гэтага. Але ў «Камуністычнай Вандэі» — Беларусі — становішча, як вядома, іншае. На маю думку, тут немалую ролю адыгрывае тое, што за 70 з гакам гадоў уласнай савецкай гісторыі было зроблена вельмі мала для выхавання сапраўднага патрыятызму ў грамадзян. «Сацыялістычныя пераўтварэнні» паслядоўна знішчалі ў нас карані нацыянальнай самабытнасці.

Цяжкі ўдар па адраджэнні і фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў быў нанесены індустрыялізацыяй. Мала таго, што Беларусь ператваралася ў «сборочный цех Союза», у выніку чаго яе ўласныя эканамічныя інтарэсы былі падначалены інтарэсам суседзяў, мы ўвогуле ледзь не зніклі як нацыя.

Менавіта ў ходзе індустрыялізацыі і пасляваеннага ўзнаўлення гаспадаркі вёска пачала аддаваць сваю найбольш маладую, найбольш працаздольную частку насельніцтва — носьбітаў беларускай мовы, культуры, традыцый — у гарады. Адначасова пачалася ўзмоцненая русіфікацыя школы. Каб хутчэй стаць «гараджанінам», трэба было пазбавіцца «вясковай» мовы. Учарашнія сяляне ператварыліся ў маргіналаў — дэкласаваны, дэнацыяналізаваны элемент. Яны гублялі сялянскія традыцыі, уклад жыцця, а гарадскую культуру (у пераважнай большасці — не беларускую) не ўспрынялі. Адсюль — п'янства. Страшэнная навала, другі наш Чарнобыль. Калі б з прылаўкаў знікла малако і хлеб, то гэта наўрад ці выклікала б сацыяльны ўзрыў, а вось каб знікла спіртное... Балюча бачыць, як ідзе дэградацыя нацыі. І ў гэты час я не чую з вуснаў Прэзідэнта і парламентарыяў ніводнага слова аб згаданай праблеме.

Адной з важнейшых прычын нізкай нацыянальнай самасвядомасці беларусаў з'яўляецца і адсутнасць нацыянальнай інтэлігенцыі. Выхаваная на расійскай імперскай гісторыі, на расійскай культуры, яна на беларускай зямлі па-янычарску змагаецца з адраджэннем беларускасці! Ёй вельмі далёкія ідэі адраджэння нацыі. Таму адной з найважнейшых задач сённяшняга дзяржаўнага будаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь, на маю думку, з'яўляецца стварэнне нацыянальнай сярэдняй і вышэйшай школы. Задача гэта, вядома, будзе рэалізоўвацца не за год, не за два. Але ж паспяховыя вынікі, як нішто іншае, дапамогуць пазбавіцца нам свайго каланіяльнага мінулага, прымусяць, нарэшце, суседзяў лічыць нас за людзей

**Юрый КЛІНЦОЎ, сябра Гомельскай абласной Рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

# *У Менску створаны дзве скаўцкія харугвы*

«Наша слова»




**Герб Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў.**

Прайшло тры гады з моманту Устаноўчага сойма Аб'яднання беларускіх скаўтаў (АБС). І вось 25 лютага 1995 года ў Менску ў Рэспубліканскім палацы дзяцей і моладзі (вул.Кірава) а 9 гадзіне адбудзецца адкрыццё Другога сойма АБС. На сойме будуць падведзены вынікі развіцця скаўцкага руху ў рэспубліцы сярод моладзі Беларусі, перавыбары кіраўніцтва, змены Статута і шэраг іншых пытанняў.

Першыя суполкі Крывіцкіх скаўтаў былі створаны ў 1921—22 гг. у гімназіях Нясвіжа, Клецка і Вільні. Ля вытокаў скаўцкага руху на Беларусі стаялі пісьменнікі, навукоўцы і грамадскія дзеячы: Максім Гарэцкі, Янка Купала, Францішак Аляхновіч, Леапольд Родзевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі і Сяргей Новік-Пяюн. 74 гады беларускаму скаўтынгу і тры гады з моманту адраджэння. Што ж зроблена за перыяд адраджэння скаўцкага руху моладзі ў нашай рэспубліцы? Створаны скаўцкія суполкі ва ўсіх абласцях, гарадах і вёсках. Выраслі таленавітыя скаўты-лідэры і скаўтмайстры, якія увесь свой талент і розум аддаюць выхаванню нашай скаўцкай моладзі (Людміла Шлеперава, Алёна Грыжэльчык, Алесь Чарняўскі, Уладзімір Канавалаў, Пётра Баслык і інш.).

У Менску створаны дзве харугвы: імя Янкі Купалы і Вітаўта.

Харугва імя Янкі Купалы прадстаўлена скаўтамі ўсіх узростаў, пачынаючы ад малодшых скаўтаў-ваўчкоў і заканчваючы скаўтамі, скаўтамі-акадэмікамі і ровар-скаўтамі (скаўтэрамі, старэйшымі скаўтамі). Харугва імя Я.Купалы рыхтуе скаўцкіх лідэраў і скаўтмайстроў па 140-гадзіннай праграме, якія працуюць са школьнікамі ў беларускамоўных класах. Харугва мае штаб-кватэру пры Беларускім педагагічным універсітэце і выдатную вучэбна-трэніровачную базу, якая ўключае два палігоны для трым-арыентавання і экалагічную сцежку працягам ад 5 да 30 кіламетраў, на якой праводзяцца практычныя заняткі па асновах тэхнікі і тактыкі турызму і арыентавання, экалагічнае выхаванне, асновы выжывання ў экстрэмальных сітуацыях. У 1993 годзе выдадзены падручнік для скаўтаў і скаўцкіх лідэраў «Спадарожнік скаўта». Скаўтмайстры і скаўты-лідэры харугвы вядуць актыўную работу па пашырэнні скаўцкага руху сярод моладзі, выступаюць па радыё і тэлебачанні, чытаюць лекцыі ў школах вобласці, выступаюць на навуковых канферэнцыях і на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў (у гарадскім, абласным і рэспубліканскім інстытутах). Харугва супрацоўнічае са скаўцкімі суполкамі Беларусі і Украіны.

Зарэгістравана Харугва імя Я.Купалы пры Рэспубліканскім Таварыстве беларускай мовы імя Ф.Скарыны, з якім супрацоўнічае па пытаннях вывучэння гісторыі і культуры, пашырэнні роднай мовы сярод нашай моладзі. Сабраныя матэрыялы па гісторыі і культуры беларускага народа сябры харугвы перадалі ў музей Рэспубліканскага цэнтра дзіцяча-юнацкага турызму Рэспублікі Беларусь. Прынцыпы працы харугвы заключаюцца ў аб'яднанні намаганняў па выхаванні нацыянальна свядомай моладзі, таму харугва супрацоўнічае з усімі маладзёжнымі суполкамі.

Скаўтынг — гэта сістэма выхавання моладзі. Ставіцца мэта выхоўваць асоб з моцным характарам, з актыўнай жыццёвай пазіцыяй і фізічна загартаваных, якія жывуць у згодзе з прыродай і людзьмі. Скаўтынг выхоўвае любоў да мовы, гісторыі, культуры, лепшыя маральныя якасці, прывівае пачуццё сяброўства, развівае творчае мысленне, зрокава-вобразную памяць. Будуецца на прынцыпах добраахвотніцтва, самадзейнасці і на прызнанні Бога. Гэта міжнародны, непалітычны рух моладзі, пачатак якому паклалі ў 1907 г. выдатны выхавацель моладзі Роберт Бадэн-Паўэл і канадскі пісьменнік Сэтан Томпсан.

Р.Бадэн Паўэл (вядомы як Бі-Пі) нарадзіўся 22 лютага 1857 года ў сям'і прафесара Оксфардскага універсітэта. З дзяцінства захапляўся вандроўкамі і жыццём на прыродзе, меў здольнасці да музыкі і мастацтва, займаўся спартыўнымі гульнямі, напісаў 32 кнігі для моладзі і за 83 гады свайго жыцця атрымаў 28 ордэнаў і медалёў і 19 замежных скаўцкіх Знакаў пашаны.

**Віктар АКІМАЎ, ровар-скаўт, сябар Рады Харугвы імя Янкі Купалы, сябар Рады АБС.**

# РЭФЕРЭНДУМ – ПАГРОЗА НАШАЙ ЗГОДЗЕ

*У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА»*

Мы, супрацоўнікі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, падтрымліваем выступленне на старонках «Звязды» Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечаслава Грыба, дзе таксама закранаюцца пытанні нацыянальнай сімволікі. Лічым, што дыскусіі, якія сёння вядуцца ў сродках масавай інфармацыі наконт магчымага рэферэндуму пра дзяржаўную сімволіку, маюць неканстытуцыйны характар, таму што гэтая сімволіка замацавана ў Канстытуцыі. Больш таго, такі рэферэндум меў бы антыдзяржаўны характар, таму што канчаткова падзяліў бы наша грамадства на два варожыя лагеры. Гэта павялічыла б дэстабілізацыю ў грамадстве, супярэчыла б тым заклікам да нацыянальнай згоды, з якімі выступаюць найбольш дальнабачныя палітыкі, выступае сам Прэзідэнт.

Урэшце, такія дыскусіі падрываюць і міжнародны аўтарытэт Беларусі. Еўрапейская практыка сведчыць, што лёсы дзяржаўнай сімволікі вызначаюцца не галасаваннем, а нацыянальнымі традыцыямі. Дзейнічаючы іначай, мы сталі б недарэчным і незразумелым выключэннем у свеце.

Сказанае вышэй цалкам датычыцца і пытанняў дзяржаўнасці мовы.

**Адам МАЛЬДЗІС, Юрый ВАШКЕВІЧ, Эдуард ДУБЯНЕЦКІ, Святлана САЧАНКА, Марыя МІЦКЕВІЧ, Віталь ЗАЙКА, Захар ШЫБЕКА, Таццяна ВАШКЕВІЧ, Вольга ГАПОНЕНКА, Уладзімір КОНАН.**

# С.ШУШКЕВІЧ: ЕЛЬЦЫН ШУКАЕ ПАЛІТЫЧНАЙ ПАДТРЫМКІ Ў БЕЛАРУСІ

**Былы Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч лічыць, што візіт Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына ў Мінск выкліканы пошукам палітычнай падтрымкі Беларусі ў сувязі з расійска–чачэнскім канфліктам.**

Ён заявіў, што не бачыць іншай мэты гэтага візіту. У той жа час ён зазначыў, што сапраўды надышла пара заключаць новую рамачную дамову накшталт Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Расійскай Федэрацыяй і Беларуссю, падпісанне якой адбылося падчас візіту Б.Ельцына. Паводле слоў С.Шушкевіча, падпісаная яшчэ Мікалаем Дзямянцеем у часы яго старшынства ў Вярхоўным Савеце, гэтая дамова не адпавядае сучаснаму моманту. Адносіны дзвюх дзяржаў, лічыць С.Шушкевіч, павінны быць рынкавымі і прагматычнымі.

"Добры вечар" **Алесь КНЯЗЮК.**

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ "Наша Слова"

***Колькі разоў чуў спрэчкі і сам спрачаўся пра тое, які наш народ, якія мы самі, беларусы як нацыя, чаго мы вартыя і чаго ад нас чакаць. Чуў розныя меркаванні, але большасць схіляецца да думкі, што ў нас не такая ўжо і кепская ментальнасць, як часам нехта можа сказаць са злосці, што ў нашай натуры добрае пераважае над кепскім. Гаварылася так мо нават таму, каб не абразіць нацыянальныя пачуцці ўсіх тых, хто спрачаўся, хто быў апанентам.***

# Быць парабкам прасцей, чым гаспадаром

Памятаю, як быў абураны мой швагер Віктар Кір'янаў, былы вайсковец, калі прачытаў у нататках Барыса Сачанкі пра тое, як рэзка аднойчы сказаў Янка Купала пра свой народ — што не можа ўрэшце пракарміць свайго паэта... Я спрабаваў даказаць, што Янка Купала меў на ўвазе хутчэй не народ, а ўладу. Бо калі б Купала (нават сам Купала!) сказаў нешта дрэннае пра ўладу, яго тут жа маглі б абвінаваціць у самым вялікім злачынстве і зрабіць вывады.

Аднак швагра я не пераканаў, ён застаўся сярдзітым на Янку Купалу, на Барыса Сачанку, а таксама на мяне — за тое, што мы абразілі яго, беларуса, і ўвесь беларускі народ...

Так што гаварыць рэзка на такую далікатную тэму рызыкоўна, каб не параніць сэрцы патрыётаў, якія гатовы бачыць у сваім народзе толькі адно добрае.

Аднак жа трэба мець смеласць не абыходзіць і таго, што заслугоўвае асуджэння, інакш мы ніколі не пазбудземся тых радзімых плямаў, якія нам дасталіся ў спадчыну.

Хоць, як сказаў знаёмы мне армянскі вучоны Рафік Ішханян, паўтараючы словы свайго знакамітага земляка (ці не Авеціка Ісаакяна), што дрэнных народаў не бывае, ёсць толькі дрэнная ўлада.

Ды ўсё ж такі... Апрача добрага, як працавітасць, памяркоўнасць, гасціннасць і інш., маем мы і такое, што нас не ўпрыгожвае. Без спасылак на класікаў, я назваў бы адну з самых вялікіх заган — гэта даверлівасць, наіўная, проста дзіцячая даверлівасць да тых, хто стаіць над намі і гаворыць загадным голасам...

Фактычна — гэта даверлівасць да ўлады, да таго, хто кіруе. У гэтым сэнсе мы вельмі не падобныя да расейцаў, у якіх, як мне здаецца, у крыві сядзіць непавага да ўлады, і грунтуецца яна на тым, што гэтая ўлада вечна ашуквала, вечна рабавала, вечна не жадала дабра свайму народу, а дбала толькі пра сваю машну, мацавала і пашырала інтарэсы ўладаў.

І як ні стараўся рэжым заткнуць рот тым, хто быў асабліва яркім выразнікам ці выказнікам такога настрою, ён жыў і перадаваўся з пакалення ў пакаленне, нягледзячы на ніякія рэпрэсіі, дайшоў і да нашага часу. Мо так здарылася таму, што расейцаў шмат больш, чым іншых, што яны больш упэўненыя ў сваіх сілах, у сваёй праўдзе? Што ў іх фактычна азіяцкі погляд на чалавека — як на пясчынку, як на травінку — распыляй, тапчы, ды нічога не зробіш, бо нас шмат, мы непераможныя. Жыццё наша — нішто, але яно невынішчальнае...

А беларусы больш цэняць сваю індывідуальнасць, яны хочуць быць самімі сабою, жыць у сваёй шкарлупіне-брані, але шлях да такое самабытнасці яны выбралі не зусім рэальны. Бо яны бароняць сваю індывідуальнасць на сваім парозе, на сваім агародзе, а трэба яе бараніць далей ад дому — ажно на дзяржаўнай мяжы. Гэта значыць, трэба будаваць сваю дзяржаўнасць, думаць пра ўсю нацыю, а не толькі пра сябе. Толькі пры такой умове нацыя зможа сябе захаваць. Інакш яна будзе асімілявана, растворыцца ў чорным моры і прападзе навечна.

Ёсць у беларусаў такая парабкоўская прымаўка, інакш яе і не назавеш: «На чыім возе сяджу, таму і песенькі пяю».

Ехаў наш беларус шмат гадоў не на сваім возе, таму і песенькі спяваў не для сябе, а для гаспадара, таго, чый быў воз. Таму і вырастаў у яго горб там, дзе ў нармальнага незалежнага чалавека — роўная спіна. Гэта трэба разумець як у прамым, так і ў пераносным сэнсе. Асабліва страшны наш горб маральны, псіхалагічны, ён перадаецца з пакалення ў пакаленне: мы не маем смеласці назваць, прызнаць сябе гаспадарамі нават тады, калі гаспадар пакінуў свой (а мо і чужы, наш?) воз і аддаў нам лейцы. І вось мы разгубіліся: ці туды едзем? А што будзе, як не туды?

Безліч пытанняў-сумненняў апаноўвае нашага няўпэўненага ў сабе фурмана, які прывык, *што ім кіравалі і ў яго не пыталіся*, куды ехаць. А тут раптам трэба браць на сябе смеласць і вырашаць самому...

Вось тут на поўную сілу і праявіўся сіндром залежнасці, які ў нас гадавалі стагоддзямі... Мы як тая птушка, што вырасла ў клетцы і потым нечакана вырвалася на волю: яна ўжо не можа жыць на волі, яна не ведае, што гэта такое, яна зноў, як толькі захацела есці, вяртаецца ў сваю клетку. Тое самае адбываецца сёння і з намі, беларусамі — ад самага нізу да самага высокага верху. «Мы не пражывём самі, мы не пражывём, мы не пражывём», — так і чуецца на кожным кроку.

Канечне, быць парабкам нашмат прасцей, чым гаспадаром: парабак менш думае, ён жыве сённяшнім днём — што зарабіў, тое і яго. А гаспадар павінен глядзець далёка наперад, бачыць мэту і перспектыву, вылічваць і выкіроўваць, каб гаспадарка развівалася, каб давала прыбытак, каб кожны год быў лепшы і багацейшы за мінулы. Гаспадар адказвае не толькі за гаспадарку, але і за будучыню сваіх дзяцей і ўнукаў, ён дае працу і хлеб не толькі сабе, але і шмат якім людзям. Дык хіба яго місія горшая, чым у таго парабка, які думае толькі пра сябе? Але такое місіі не кожны можа заслужыць, не кожны на яе здольны. Быць гаспадаром — адказна і ганарова, але і цяжка.

На жаль, бальшавікі шмат гадоў адвучвалі нас быць гаспадарамі, нават само слова «гаспадар» лічылася ледзь не варожым нашаму часу, як і старое беларускае слова «спадар» — форма звароту да чалавека — было выгнана з ужытку і заменена пралетарскім «таварыш». Час пакажа, якое з іх стане архаізмам.

Давер да ўлады... Пэўна ж не стопрацэнтны, але ён быў, людзі проста прывыклі адчуваць над сабою прымус і сілу. Падымалі індустрыялізацыю, рабілі калектывізацыю, аддавалі сілы і жыццё на вайне з гітлераўскімі захопнікамі, аднаўлялі разбураную вайною гаспадарку... І ішлі і ехалі на вялікія будоўлі камунізму, уздымалі цалінныя і абложныя землі!

Мы на ўсё былі гатовы, мы ішлі туды, куды кіравала партыя.

І прыйшлі ў камуністычны тупік.

*І дарэмна сёння вінавацяць* у гэтым дэмакратаў. Тупік быў падрыхтаваны камуністамі. Імперыя павінна была развaліцца, бо такі лёс усіх імперый свету. І не трэба, мне здаецца, плакаць па імперыі, трэба думаць пра новыя формы жыцця, няважна, як яны будуць называцца, абы яны былі чалавечнымі, абы забяспечвалі чалавека ўсім, што трэба для нармальнага жыцця.

А як нас перайначвалі, як хацелі перарабіць на свой капыл!

Бацькі гаварылі з дзецьмі на *розных мовах: бацькі — на* старой, «адсталай», «дзеравенскай», дзеці — на мове «камуністычнай будучыні», на мове Леніна — Брэжнева. У гарадах ужо ў гэтым сэнсе можна было аб'яўляць камунізм — начальства ўсё гаварыла па-расейску!

Як некаторыя казалі, і зусім сур'ёзна, каб не беларускія пісьменнікі, дык ужо ніхто і не ўспомніў бы пра беларускую мову, а гэтыя пісьменнікі не маглі адолець расейскае мовы і таму так трымаліся за сваю — і цягнулі ўсю справу назад!

Вось ужо няшчасныя нацы*яналісты!*

Даўно іх трэба было пад корань...

Шмат было разнесена па рэспубліцы такіх вось дурных чутак і плётак, але яны траплялі на даверлівых і ачмураных бальшавіцкаю прапагандаю людзей, чуткі-плёткі падхоплівалі і пускалі далей.

Як і сёння — вераць у тое, што Зянон Пазьняк, як стане пры ўладзе, далучыць Беларусь да Польшчы, што прадасць нас амерыканцам...

Адным словам, на вярбе грушы растуць па-ранейшаму, а бальшавіцкія прапагандысты задаволена паціраюць рукі: ад Пазьняка народ адварочваецца! Мы свайго дамагліся!

Яшчэ рана святкаваць перамогу! Мне здаецца, што наш народ прыйдзе да Пазьняка, да гэтага ці да іншага, але да свайго, шчырага беларуса і патрыёта, які ніколі нікому не прадаваўся і не прадасца, бо інтарэсы беларускага народа ён ставіць вышэй за сваё жыццё, а не за нейкую там асабістую выгаду.

Мэта свядомага беларуса — незалежная Беларуская дзяржава, роўная сярод роўных, з якою аднолькава лічацца як усходнія, так і заходнія суседзі, як паўднёвыя, так і паўночныя. І калі наш першы Прэзідэнт за «свае» пяць гадоў не зможа прыйсці менавіта да такое Беларусі, дык гэтая нялёгкая, але пачэсная місія дастанецца менавіта Пазьняку. Беларусы ніяк сабе яшчэ не усвядомілі, што толькі мова, матчына слова, ратуе іх ад пагібелі, не дае яшчэ памерці нацыі.

Кожны шчыры беларус перажыў вялікую трагедыю і боль за свой народ, калі не так даўно была прэзідэнцкая выбарчая кампанія, калі шэсць чалавек прэтэндавалі на крэсла прэзідэнта. І з гэтых шасці толькі два чалавекі гаварылі са сваім народам на яго роднай мове, а чатыры — гаварылі на мове вялікага суседа. І не саромеліся, не чырванелі, не апраўдваліся, што паспелі забыць беларускае слова, што выракліся яго і паверылі ў «вышэйшасць» чужое мовы над сваёю, над матчынаю! Гэтым яны лішні раз паказалі, што Беларусь была калоніяй Расеі, што нічога свайго БССР не мела, як толькі знешнія атрыбуты дзяржаўнасці.

Ды не забыўся наш народ, як за роднае слова ссылалі, садзілі ў турмы і расстрэльвалі, а слова *«нацдэм» (ад «нацыянальны дэмакрат»)* было раўназначнае «ворагу народа». «Нацдэмы хочуць адарваць Беларусь ад СССР», — так гаварылі тады бальшавікі і шукалі доказаў, хоць іх і не было.

Між іншым, палохаюць гэтым пудзілам беларусаў і сёння: першы ваш вораг — Пазьняк, бо ён хоча — і г.д. Некалі царскія слугі так гаварылі пра Кастуся Каліноўскага і палохалі беларускіх сялян, што ён хоча вярнуць прыгоннае права і адарваць «Северо-Западный край» ад Расеі. За сто гадоў з гакам мала што змянілася, бо шмат хто з беларусаў верыць у выцвілыя ад часу жупелы імперскай прапаганды.

Чаму яны такія даверлівыя, нашы людзі? Ці яны нарадзіліся такімі, ці іх так адукавалі? Хто ўвёў ім у вушы чужыя ісціны, якія сталіся для іх сваімі?

Бяда ўся ў тым, што ідэолагамі ў нас былі расейцы, яны вучылі нас усяму, што трэба лічыць сваім, а што чужым, варожым. Усё тое, што было чужым для расейцаў, лічылася чужым і для нас, беларусаў.

Калі твае погляды супадалі з вялікадзяржаўнымі, расейскімі, ты лічыўся інтэрнацыяналістам, калі ж ты хацеў даказаць нешта сваё, ды яшчэ на сваёй роднай мове, ты ўжо быў нацыяналістам. А нацыяналіст і нацдэм — гэта адно і тое ж, гэта вораг СССР, гэта і вораг БССР.

Манаполія на любоў да Беларусі была ў расейцаў, яны дыктавалі, як і колькі можна любіць беларусу сваю маці Беларусь. Спачатку трэба любіць вялікі Савецкі Саюз, а потым ужо сваю малую Беларусь. Ды і то не надта моцна выказваць свае пачуцці, бо можа дайсці да перагібаў, як у Ул.Сасюры ў вершы «Любі Україну» ці ў нашага Максіма Танка, які таксама занадта гучна гаворыць пра сваю любоў да Беларусі.

Бяда наша яшчэ і ў тым, што ў беларусаў не засталося свядомай інтэлігенцыі, бо, пачынаючы з 1930 года і нават трохі раней, яе пачалі выкарчоўваць — высылаць, саджаць і расстрэльваць. Народ фактычна застаўся без галавы, за яго сталі думаць не свае, а чужыя галовы. Тыя, хто папоўніў шэрагі інтэлігенцыі пазней, ужо не мелі той дасведчанасці, тых гістарычных ведаў і вопыту, які мелі старэйшыя нашы інтэлігенты Ігнатоўскі, Цвікевіч, Лёсік, Ластоўскі, Смоліч, браты Луцкевічы і іншыя нашы вядомыя культурныя і грамадскія дзеячы.

Сённяшняя наша інтэлігенцыя — гэта выхаванцы савецкай школы, гэта хутчэй прагматыкі, якія служылі не ідэі, а свайму дырэктару ці старшыні, каб атрымаць на пражытак прэстыжную плату і цёплы кут для сваёй сям'і. І вельмі рэдка хто асмельваўся даказваць нейкія свае ісціны, спрачаўся з афіцыйнаю думкаю, якая хоць і была наскрозь фальшывая, але затое мела надзейную апору на партыю і народ.

Інтэлігенцыя была на службе ў партыі, прапагандавала яе ідэі, змагалася з крамолаю, заганяла ў нашы галовы ўсё тое, што лічыла тая патрэбным.

Партыя абалваньвала інтэлігенцыю, інтэлігенцыя абалваньвала народ. Вось чаму мы цяпер *такія далёкія* нават ад прапісных ісцін — што Радзіму, г.зн. Беларусь, трэба любіць, што трэба шанаваць яе мову, што трэба мацаваць яе незалежнасць, самастойнасць, *што трэба* ўрэшце мець сваю нацыянальную гор*дасць і чалавечую годнасць.*

Дык ці вінаваты наш народ, што ён такі недасведчаны, амаль што цёмны, як сто гадоў назад, такі ж вернападданы і гатовы ісці супраць лепшых сваіх сыноў, якія гавораць яму праўду ў вочы, а ён не верыць і кажа, што гэта крыўда, а не праўда?

Не, народ не вінаваты, што яго абалванілі, што ён не разбіраецца, за кім і куды ісці. Ён амаль што слепа верыць уладзе: верыў Сталіну, потым Хрушчову, потым Брэжневу, трохі сваім мясцовым «правадырам» — Панамарэнку, Мазураву, Машэраву, Слюнькову, потым Кебічу, цяпер — Лукашэнку.

А назавіце хоць аднаго з іх (пра А.Лукашэнку гаварыць не будзем, яшчэ рана), хто не ашукаў народ па самым вялікім рахунку, хто спраўдзіў свае абяцанні перад народам, хто... Не трэба больш пералічваць, бо ўсе мы ведаем сёння, што абяцанні адно, а жыццё — зусім іншае.

Народ не вінаваты ў тым, што верыць у праўду моцнага (улады) і не прымае праўды слабага (чалавека без улады), хоць праўда яго відавочная і, здавалася б, не выклікае ніякага сумнення.

Як ні горка пра гэта гаварыць, а вінавата ў гэтым наша інтэлігенцыя — яна сама яшчэ далёка не дарасла да меркі называцца нацыянальнаю інтэлігенцыяй, бо яна залежная, як і той калгаснік, яна на службе ва ўлады: гатова рабіць усё, што ёй загадаюць. А сёння яна яшчэ і ў дадатак плача, што мы не зможам жыць незалежна, што ў нас няма энергарэсурсаў, няма таго, няма гэтага...

Але, як казаў адзін чалавек, хутчэй за ўсё ў нас дэфіцыт мазгоў...

Сапраўды, нас не навучылі жыць сваёю галавою, нас прывязвалі да баявое калясніцы савецкай імперыі, і там мы рабілі тое, што нам загадвалі — было проста і лёгка, хоць і не ўсім.

А тут раптам трэба ўсё рабіць самім, і думаць самім, і адказваць за ўсё самім. Ці не занадта шмат клопатаў звалілася на нашу інтэлігенцыю, асабліва тую, што абслугоўвае дзяржаўны апарат, што адказвае за народную гаспадарку, за навуку і культуру, за дабрабыт народа.

Сіндром залежнасці яшчэ доўга будзе нас мучыць, няхутка мы ад яго вылечымся — мо не адно і не два пакаленні пройдзе, пакуль адчуем урэшце, што мы — незалежныя!

Але беларускую інтэлігенцыю мы будзем мець — не цяпер, дык у чацвер! — смелую, прынцыповую, дасведчаную, якая не пабаіцца адказнасці і павядзе за сабою народ да шчасця, дабрабыту, высокай палітычнай і нацыянальнай свядомасці, да разумення таго, што сам народ — гэта тая магутная аснова, на якой трымаецца ўсё, і яму, народу, і павінна служыць інтэлігенцыя, а не ўраду, які заўтра можа змяніцца ці пайсці ў адстаўку.

**Рыгор БАРАДУЛІН:**

# "ІНТЭЛЕКТ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ ПРАКТЫЧНА НЕ ЗАПАТРАБАВАНЫ..."

"КУЛЬТУРА"

— Інтэлект нацыі — гэта пытанне і абстрактнае, і канкрэтнае, і філасофскае. Інтэлект нацыі складаецца з інтэлекту ў яго непасрэдным значэнні і абавязкова з сумлення, бо інтэлекту несумленнага быць не можа. Хітры розум, вострый розум — так, але інтэлект без сумлення, як аўто без тармазоў. Што тут казаць, за 70 гадоў эксперыменту савецкай улады з людзей выбівалі ў асноўным сумленне, і выбівалася ўсё нацыянальнае. Нацыянальнае нівеліравалася,прычэсвалася, пачынаючы ад імёнаў і канчаючы ўсім астатнім. Напрыклад з Галныньша трэба было абавязкова зрабіць Галавіна, з Пеўня — Петухова, словам, усё на расійскі манер. І рабілася гэта быццам бы непрыкметна, затое пастаянна і мэтанакіравана. І зразумела, бо вялікадзяржаўны шавінізм — гэта фундаментальная навука, якая мае пад сабой некалькі стагоддзяў. Вялікадзяржаўны шавінізм і імперыялізм — блізкія паміж сабой, абапіраюцца адно на адно. Яны паступова разбуралі і менталітэт, які грунтуецца на інтэлекце, які павінен быць толькі нацыянальным, а потым ужо ўлівацца ў сусветны. А яшчэ — і дзяржаўным. Не — не вялікадзяржаўным, а дзяржаўным. Таму што менавіта дзяржава павінна дбаць пра свой інтэлект.

Далёка за прыкладамі хадзіць не трэба. Нашы цяперашнія папулісцкія кіраўнікі ўсіх рангаў — у парламенце і над парламентам — даказваюць: перш за ўсё — эканамічнае, эканамічнае, эканамічнае. Але ж зараз ніхто не будзе араць сахой, ніхто не будзе без сеялкі сеяць. Калі дбалі пра інтэлект у Японіі — а Японія практычна без сыравіны, без прастораў — дык, калі ласка, вось вам японскае дзіва. А яно не абстрактнае, у ім канцэнтруецца японскі інтэлект і японская дзяржаўнасць. У нас жа дзяржавы як такой практычна няма. Ёсць папяровы суверэнітэт, папяровая дзяржаўнасць. І толькі чуем балбатню аб празрыстых межах, што гэта такое — капронавыя яны ці нэйлонавыя? Наогул мяжа — гэта ж не Берлінская сцяна. І не абавязкова мяжа павінна быць з калючым дротам, з токам высокага напружання, з пагранічнікамі і сабакамі, з паласой, якая барануецца. Мяжа павінна быць па вялікім рахунку створана з нацыянальнага дзяржаўнага інтэлекту, з менталітэту народа. Вось гэта — мяжа!

З другога боку, тут пачынае дзейнічаць інтэлект міждзяржаўны, бо сам па сабе чалавек адзін не можа быць, як і адно дрэва не можа расці. Закранем крыху Расію. Калі б Расія пры яе багаццях і вялізнай тэрыторыі дбала пра свой нацыянальны інтэлект, а не пра суб'екты федэрацыі, для ўсіх яе народаў было б лепш. Калі б квітнеў суверэнітэт інтэлектаў, гэта ішло б толькі на карысць, на самаўзбагачэнне, на абмен розумаў. Калі ж уводзяцца ў горад танкі, калі б'юць свой уласны народ і даказваюць, што ён — суб'ект федэрацыі, гэта, мякка кажучы, нецывілізавана. І каго знішчаць — свой жа народ? Баючыся, што імперыя развáліцца? Дык яна, безумоўна, развáліцца. Бо павінна быць так, каб федэрацыю прымалі душа і розум усёй расійскай нацыі.

Што атрымліваецца ў нас? Чаму нашы кіраўнікі ніколі не гавораць ні пра культуру, ні пра інтэлект нацыі? А таму што для іх гэтая галіна закрытая. Гэта бадай тое ж, што першабытнаму чалавеку гаварыць пра камп'ютэр. Урэшце, усе кіраўнікі былой чырвонай імперыі ахвотна разважалі пра стан літаратуры, але ў музыку, бадай, не лезлі. У музыцы ім было арыентавацца цяжка. Праўда, Нікіта Хрушчоў хваліў "Рушнічок". А ўвогуле я разумею нашых высокіх кіраўнікоў, чаму іх раздражняюць словы "інтэлект", "розум", "інтэлектуальнасць". Як у народзе кажуць: калі сам не маеш, а ў суседа ёсць, дык не хочацца хваліць суседа. І кіраўнікі праблему абароны інтэлекту абыходзяць наўмысна. Бо, з аднаго боку, для іх яна незразумелая, а з другога — і ненавісная. Іх раздражняе тое, што нехта можа думаць, мысліць, абагульняць. Ім прасцей паабяцаць: вось мы заўтра, маўляў, падымем сельскую гаспадарку... А падымаюць як у тым анекдоце: "Ну, як, падымаеце сельскую гаспадарку?" — "Так, падымаем. Дзвюх кароў паднялі ўжо..." Дык вось і ў нас па такім жа прынцыпе ідуць. На жаль, кіраўнікі дзяржавы не дбаюць пра дзяржаўнасць. Адсутнасць жа такой выгадна і для мафіёзных структур, і для былой партнаменклатуры. Заўважце, увесь былы апарат партнаменклатуры, усе чыноўнікі — ніхто ж з іх не пайшоў на канкрэтную работу, не стаў за станок, ні з мятлой яго не ўбачыш, ні за трактар ён не сеў. Яны ж на лётаючых талерках у космасе не зніклі! Яны ўсе аселі ў цёплых месцах і, безумоўна, стараюцца з усіх сіл, каб усё было... як было. Вось толькі што яшчэ іх надта раздражняе — дык гэта наш герб і сцяг, хаця па-ранейшаму арыентуючыся на Расію, яны забыліся на тое, што ў яе свой сцяг, свой герб. Дык што, замест "Пагоні", асвечанай вякамі, замест спрадвечнага бел-чырвона-белага сцяга бэсэсэраўскі сцяг? Зялёны колер ніколі не быў характэрны для Беларусі, ды і наогул для Еўропы.

Мне часам здаецца, што нашы кіраўнікі з завязанымі вачыма гуляюць у жмуркі з Масквой. Яны пачынаюць даказваць, што вось, маўляў, адбываецца еўрапейская інтэграцыя. Але ж у Еўропе кожная дзяржава стагоддзямі развівалася асобна. Сапраўды, пасля такога высокага развіцця — і маральнага, і культурнага, і эканамічнага — можна аб'ядноўвацца, каб не згубіцца. Але каб у тым аб'яднанні, як у сапраўдным вытанчаным букеце, не страцілася сваё. Проста ж уліцца ў агульную лужыну — гэта нікому не патрэбна. Так што выйсце — толькі ў моцнай дзяржаўнасці. Але нічога не атрымаецца, калі дзяржава не будзе думаць, як ёй застацца дзяржавай, як ёй жыць. Ну а калі пачне думаць, дык вось тут ёй патрэбны будзе інтэлект!

Інтэлект жа беларускай нацыі практычна не запатрабаваны. Урэшце, для чаго нашаму цяперашняму парламенту інтэлект? Часам глядзіш, як яны перад мікрафонамі выступаюць — ну проста карыда. Тэлека-р-р-рыда... Самая інтэлектуальная частка нашага парламента, які завецца чамусьці Вярхоўным Саветам (заўважце, у Расіі — гэта Дума, а ў нас скрозь слова "савет" — насаветаваліся!), — гэта апазіцыя БНФ на чале з Зянонам Пазьняком. Але, разумееце, нашаму цяперашняму ўраду, парламенту, чалавек высокага інтэлекту, высокай нацыянальнай годнасці, які дбае пра дзяржаву, не даспадобы, і ўсё тут. У якіх толькі грахах Пазьняка не абвінавачваюць, пачынаючы з таго, што ён нібыта ў паліцыі служыў. Аднойчы ён вельмі іранічна адказаў на пытанне "што вы рабілі ў час вайны?". Ён сказаў — нарадзіўся... і пайшоў у паліцыю. А нарадзіўся ж ён у 44-м годзе, і ў сям'ю ягоную прыйшло пяць ці сем пахаронак з фронту, і бацька яго загінуў на той вайне... Вось вам і яскравы прыклад, да якой ступені недалёкага чалавека раздражняе разумны. Дарэчы, разгорнутая праграма выхаду з эканамічнага крызісу была толькі ў БНФ, ды і наогул тое, што гаворыць Зянон Пазьняк, спраўджваецца праз два — тры гады. Бо гаворыць ён не так, як функцыянеры. Урэшце, калі Беларусь як дзяржаву будаваць на ўзроўні калгаса, дык у нас усё нармальна.

А возьмем творчыя саюзы — спадчыну імперыі. Гэта тыя ж калгасы! Сталінскія калгасы з шыльдай інтэлігентнасці. Таму што нельга аб'яднаць людзей, якія па ўзроўні сваім, па светапоглядзе, нават па манеры апранацца, разыходзяцца, а іх зноў штучна збіраюць разам. Ніяк не можам адысці ад заганных стэрэатыпаў. А што, някепска таму-сяму жылося па партыйных планах. Па-мойму, у свой час у В'етнаме так было, што даводзілі план пісьменнікам. Іх ставілі на зарплату, згодна якой аднаму трэба было напісаць пра арашальны канал, другому — пра пасадку бамбука. А мастакі? Быў жа ў нас выпадак, калі жывапісец напісаў карціну, дзе Ленін прымае парад чырвонаармейцаў на фоне ўласнага маўзалея. Абсурд! Словам, саюзы сябе зжылі. І наогул, калі ў любой еўрапейскай краіне спытаць чалавека, колькі ў вас мастакоў, дык яму, каб пералічыць іх імёны, хопіць пальцаў дзвюх рук. У нас жа, асабліва калі быў Савецкі Саюз, даведнікі ўмяшчалі да 20 тысяч прозвішчаў пісьменнікаў. Забіць чалавека можна было такой кніжкай! Хіба можа быць столькі "інжынераў чалавечых душ"? Наогул, хай кожны стварае, усім месца хопіць; і папера знойдзецца, і нотная папера. Абы таленавіты быў па-сапраўднаму. Але цяпер вымярэнне адно: член Саюза мастакоў ці не член, кампазітар самадзейны ці прафесійны? Але было і такое раздзяленне, як гаварыў дыктар — "Мы перадавалі песні савецкіх і беларускіх кампазітараў." Зразумела, Лучанок — быў савецкім кампазітарам, які пісаў песні для ўсіх фестываляў — ад БАМа да Чылі. Семяняка, відаць, быў беларускім. Цяпер вось лямантуюць: заняпад, заняпад. Я разумею, што зараз наогул ніякай увагі ні да мастакоў, ні да пісьменнікаў, ні да кампазітараў. Жывем па прынцыпе: ратуйся, хто як можа. Мне асабліва балюча ўсведамляць, што маладыя творцы зараз робяць практычна тое ж самае, што іх старэйшыя калегі: прыстасоўваюцца да абставінаў. Раней дыктавала партыя — пра што пісаць або спяваць, цяпер дыктуе камерцыя, яго вялікасць даляр дыктуе...

А бізнес і культура — гэта вельмі складаная штука. Гэта амаль тое ж, што прастытуцыя і цнатлівасць. І працаваць у бардэлі, і застацца цнатлівым? Спонсарства ў нас своеасаблівае. Калі ўзяць сусветную культуру, дык там заўсёды былі фундатары, апекуны, усялякія фонды. Там сістэма адпрацаваная. У нас жа гэта проста адмыванне грошай, перавод безнаяўных у наяўныя. Як расказваў мне адзін рэжысёр, ён прыйшоў да спонсараў з просьбай ахвяраваць 6 мільёнаў, каб калектыў змог завяршыць здымкі карціны. Кіраўнік фірмы паклікаў камерцыйнага дырэктара і кажа: "Яму трэба 12 мільёнаў; рэжысёр удакладняе: трэба ж шэсць! А ў адказ яму:" Так, вам — шэсць"...

І зноў-такі ўсё ўпіраецца ў дзяржаву. Не думае дзяржава пра тое, каб праз інтэлект нацыі, яе талент выйсці ў Еўропу, у свет. Але ўсё ж ёсць у нас у дзяржаве асоба, якая канцэнтруе ў сабе той самы інтэлект нацыі, пра які мы марым, пра які сёння гаворым. Гэта — Васіль Быкаў. Па слову Быкава ведаюць Беларусь у свеце, а не па пастановах парламента і палкіх прамовах прэзідэнта. Я веру — людзей, якія зрабілі б гонар Айчыне, вялікае мноства. Толькі б дала ім магчымасць дзяржава рэалізавацца...

**Запісаў Барыс КРЭПАК**

## БЕЛАРУСКАМУ СЛОВУ — ДЗЯРЖАЎНАЕ ГУЧАНЬНЕ!

Грунтуючыся на Канстытуцыі, на дзеючым заканадаўстве аб мовах, аб культуры, аб адукацыі Рэспублікі Беларусь і выказваючы занепакоенасць тым, што дзяржаўная моўная палітыка ў Беларусі не ажыццяўляецца належным чынам, а апошнім часам нават інспіруецца пэўнымі сіламі супрацьдзеянне яе ажыццяўленню, рэспубліканская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны пастанавіла:

1. Запатрабаваць ад усіх дзяржаўных структур і службовых асоб Рэспублікі Беларусь няўхільнага выканання палажэнняў Канстытуцыі краіны, у якіх замацаваны дзяржаўны статус беларускай мовы.

Асудзіць непатрыятычныя праявы нацыянальна-дзяржаўнага нігілізму і грэблівага стаўлення да мовы беларускага народа з боку асобных дзяржаўных служачых, пэўных грамадскіх аб'яднанняў альбо іншых структур.

2. Звярнуцца да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з грамадскай ініцыятывай зацвердзіць у Законе аб бюджэце на 1995 год і ў падатковым заканадаўстве такія палажэнні, якія б гарантавалі паспяховае і поўнае ажыццяўленне Закона аб мовах, Закона аб культуры, Закона аб адукацыі і іншых нарматыўных актаў, якія рэгулююць моўна-культурныя дачыненні ў грамадстве.

Лічыць недапушчальным згортванне канкрэтных праграм дзяржаўнай падтрымкі беларускай культуры, кнігавыдання, перыядычнага друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, нацыянальнай сістэмы адукацыі. У адпаведнасці з законам і неад'емным правам народа беларускае слова ў сацыяльна-грамадскім ужытку Бацькаўшчыны павінна мець сапраўды дзяржаўнае гучанне.

3. Усведамляючы асабліва важную ролю школы ў справе дзяржаўнага і моўна-культурнага адраджэння Беларусі, аказваць больш дзейсную падтрымку органам, установам і работнікам азначанай галіны, якія самаахвярнымі высілкамі ствараюць падмурак нацыянальнай сістэмы адукацыі, забяспечваюць навучальна-выхаваўчы працэс згодна з патрабаваннямі заканадаўства. Без нацыянальнага дашкольнага выхавання, без сапраўды беларускай сярэдняй і вышэйшай школы не мае будучыні беларуская дзяржава.

4. Падтрымаць зварот бацькоў, вучняў беларускіх школ і класаў да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб пераводзе Беларускага дзяржаўнага універсітэта на беларускую мову з 1 верасня 1995 года. Менавіта з гэтага года вялікая колькасць дзяцей з пачатковай беларускай школы пачынае пераходзіць у пятыя класы агульнаадукацыйных навучальных устаноў, і ўзнікае вострая праблема недахопу выкладчыкаў, якія прафесійна валодаюць беларускай мовай.

5. Ухваліць ініцыятыву шырокай грамадскасці Беларусі аб неадкладным стварэнні другога, цалкам беларускамоўнага нацыянальнага канала Беларускага тэлебачання і звярнуцца да Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай вырашыць гэта пытанне з улікам інтарэсаў незалежнай краіны, якая не можа развіваць сваю дзяржаўнасць і нацыянальную культуру без дастаткова развітой інфармацыйнай прасторы.

— Народная газета

## "БЕЛАРУСКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ ВАЙСКОЎЦАЎ" ІЗНОЎ ЗАРЭГІСТРАВАНА

Міністэрства юстыцыі пасьля трох месяцаў разгляду заявы зарэгістравала Патрыятычны рух "Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў". Нагадаем, што БЗВ было пазбаўлена юрыдычнай рэгістрацыі ў студзені 1994 году.

Нягледзячы на адсутнасьць рэгістрацыі, за апошні час колькасьць раённых арганізацыяў БЗВ узрасла ўдвая. Незарэгістраванае, але рэальна існуючае БЗВ правяло шэраг масавых акцыяў, накіраваных на гісторыка-патрыятычнае выхаваньне моладзі і грамадзтва.

Ва ўсіх буйных гарадох Беларусі зфармаваліся дружыны рэгіянальнай аховы і бясьпекі ("Драбы" БЗВ), мэта якіх — барацьба супраць злачыннасьці і падрыхтоўка мужчын да выкананьня свайго канстытуцыйнага абавязку — абароны незалежнасьці краіны.

*Мікола Ахрымук*

(паводле "Зьвязды")

"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!

# АНТЫ – “БЕЛОРУССКАЯ НИВА” ЛіМ.

Новая хваля зацятага змагання з усім беларускім захоплівае нашу краіну. І дарма, што краіна гэта завецца Беларусь. З дня ў дзень беларускаму ж народу ўбіваецца ў галаву думка аб тым, што ў яго не павінна быць нічога беларускага — ні мовы, ні гісторыі, ні культуры. Амаль кожную раніцу на дзяржаўным радыё даюць слова каму-небудзь з ваяўнічых змагароў за “возрождение отечества”, пад якім вядома ж разумеюць зусім не Беларусь, а “великую Россию” ў рамках былога СССР. Ідэя аб’яднання з Расіяю зноў узнята над усімі нашымі праблемамі. Сёння ніводнаму цвярозаму палітыку ва ўсім свеце не магла б нават у страшным сне прысніцца думка аб аб’яднанні з краінаю, якая вядзе кровапралітную вайну са сваім народам і здзіўляе ўсё чалавецтва незвычайнай жорсткасцю, прымяняючы ў Чачні зброю, якая паўсюдна забаронена. Ці наш народ ужо забыўся, колькі жыццяў маладых беларускіх хлопцаў каштавала нам вайна ў Афганістане? Ці хочуць сёння беларускія маці пасылаць сваіх сыноў у Чачню ваяваць за імперскія інтарэсы Расіі?

А гэтыя рэаліі ўжо зноў вісяць над нашай галавою. У час візіту ў Мінск міністра замежных спраў Расіі А. Козырава адзін з прадстаўнікоў расійскай дэлегацыі выказаўся аб тым, што, маўляў, расійскія афіцэры ў Чачні пытаюцца, а чаму ж гэта мы адны тут ваюем, чаму нам не дапамагаюць братнія народы. Адным словам, Расіі зноў патрэбна “гарматнае мяса” ў абмен на так званую “таннейшую” нафту для Беларусі. Але кошт гэтай “таннейшай” нафты яшчэ значна вышэйшы, бо за ім стаіць страта незалежнасці нашай дзяржавы.

Наш усходні “старэйшы” брат сёння прыкладае намаганні, каб скасаваць нашу самастойнасць. Вядома ж, у Расіі свае інтарэсы, і гэта можна зразумець. Але ж якія інтарэсы кіруюць тымі, хто ў Беларусі спрыяе гэтаму? Чаму, скажам, газета “Белорусская нива” прадстаўляе сёння свае старонкі карэспандэнту расійскай газеты “Правда” Алегу Сцепаненку, каб аплёўваць нашу нацыянальную сімволіку ў артыкуле “Чужой рыцарь на гербе” (18.01.95)? Хіба ж нехта з нашых журналістаў дазволіў сабе ўмяшацца ва ўнутраныя справы Расіі і выказаць сваё незадавальненне тым, што гэтая краіна аднавіла свой ранейшы сцяг і герб, пад якімі было праліта нямала бязвіннай крыві і пад якімі фарміравалася Расійская імперыя шляхам захопу іншых народаў, у тым ліку і беларускага? Здзіўляе, што ніякія дзяржаўныя органы, якія павінны абараняць нашу Канстытуцыю і інтарэсы Беларускай дзяржавы, ніяк не рэагавалі на падобную публікацыю журналіста замежнай газеты, не паставілі пытанне аб яго далейшай працы ў Беларусі ў якасці карэспандэнта гэтай газеты. Думаю, што ні адна краіна не пацярпела б такога. У нас жа ўсё магчыма.

А “Белорусская нива”, тым часам, мае магчымасць і далей настройваць сваіх чытачоў супроць беларускасці. На свае зробленыя цяжкаю працаю на зямлі грошы беларускія сяляне выпісваюць гэтую газету, а яна прыносіць ім у хату непавагу да іх Бацькаўшчыны, да зямлі, да іх продкаў, да роднага слова.

Барацьбу з беларушчынаю гэта газета распачала з першых дзён новага года. У пачатку студзеня (5.01.95) на яе старонках быў змешчаны вялізны артыкул “Белорусы со свастикой”, падпісаны рэдактарам аддзела грамадска-палітычнага жыцця гэтай газеты Ігарам Акшэўскім. Зноў аплёўваецца беларуская эміграцыя. З заўзятаю ўпартасцю аўтар прадаўжае шукаць ворагаў сярод тых нашых суродзічаў, хто апынуўся на чужыне ў сувязі з ваеннымі падзеямі.

Як вядома, у час другой сусветнай вайны многія беларусы былі адарваны ад роднага дому і параскіданы па свеце. Розныя былі іх шляхі і лёсы. Шмат пісалася пра гэта ў апошні час. Здаецца, усім стала зразумела, што гэта не ворагі і не здраднікі, як раней малявала іх савецкая прапаганда, а звычайныя людзі, якія сумуюць па сваёй радзіме, якія захавалі сваю мову і культуру і якія сёння хвалююцца за лёс Беларусі, стараюцца чым могуць дапамагчы нам. Мне давялося пабываць амаль ва ўсіх беларускіх асяродках па-за межамі Беларусі. І ўсюды я сустракала адкрытых і сардэчных людзей, са шчыраю прыхільнасцю да сваёй радзімы. Разам з прэзідэнтам нашай арганізацыі сп. Радзімам Гарэцкім, мы былі летась і на сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая адбылася ў Канадзе, у г. Таронта, у верасні. Такія сустрэчы праходзяць раз у два гады ў розных гарадах ЗША і Канады, гэтая сустрэча была 21-я. На ёй вялася гаворка як аб праблемах беларускай эміграцыі ў Амерыцы, так і аб становішчы Беларусі. Удзельнікі сустрэчы прынялі Зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, дзе было выказана вітанне з нагоды яго абрання на гэтую высокую пасаду і спадзяванне на тое, што ён будзе і надалей умацоўваць беларускую дзяржаву. У цэлым гэта было спатканне людзей, якія жывуць інтарэсамі Беларусі і для якіх лёс іх Бацькаўшчыны заўсёды стаіць на першым плане. Інфармацыя пра гэту вельмі значную падзею была ў беларускім друку. Цікавы матэрыял вядомага фотамайстра А. Клешчука, таксама ўдзельніка сустрэчы, быў надрукаваны ў газеце “Звязда”, 10.11.94. Менавіта гэта публікацыя і паслужыла повадам для нападак на старонках “Белорусской нивы” як на артыкул, так і на саму газету “Звязда”. І. Акшэўскі выказвае сваё незадавальненне і фактам сустрэчы і прысутнасцю на ёй прадстаўнікоў ад грамадскіх арганізацый з Беларусі — БНФ, “Бацькаўшчыны”, дэпутата ад апазіцыі. Але найбольшае абурэнне аўтара выклікала тое, што “Звязда” змясціла фотаздымкі ўдзельнікаў і арганізатараў сустрэчы, беларускіх эмігрантаў з Канады — Міколы Ганько і Барыса Рагулі. Як і ў былыя савецкія часы аўтар памфлета прадаўжае называць нашых замежных суайчыннікаў “беларусамі са свастыкай” і выкарыстоўвае ўвесь арсенал былой савецкай прапаганды. Не адзін раз у падобных публікацыях ужо скарыстана гэта вядомая падтасоўка фактаў з братамі Ганько. Мікола Ганько, які зараз жыве ў Канадзе, гэта зусім не той Міхась Ганько, які ўзначальваў у час вайны Саюз беларускай моладзі. Выклікае недаўменне, што газета прыводзіць вытрымкі з дакументаў, у пошуку якіх дапамагаў аўтару начальнік аддзела па наглядзе за выкананнем законаў аб нацыянальнай бяспецы Пракуратуры Рэспублікі Беларусь сп. І. Сухаверх, за што яму выказана гарачая падзяка. Такіх дакументаў, якія прыведзены ў газеце, у дачыненні да Міколы Ганько не існуе, гэтыя дакументы могуць тычыцца толькі Міхася Ганько, і пра гэта сп. Сухаверх не можа не ведаць. Відавочна, што тут можна гаварыць толькі пра грубую падтасоўку фактаў. Мікола Ганько ў час вайны быў падлеткам і не мог быць такім злачынцам, як гэта напісана ў артыкуле. У яго таксама быў свой лёс і свой шлях на эміграцыю. А Міхась Ганько, як вядома, загінуў у канцы вайны.

Што тычыцца асобы Б. Рагулі, то, здаецца, тут даўно ўжо наспела пытанне аб тым, каб у рэшце рэшт вызначыць сапраўдную ролю тых беларусаў, якія найперш думалі ў час ваенных падзей пра лёс свайго народа, што апынуўся ў цэнтры змагання за сусветнае панаванне дзвюх дзяржаў і які стаў ахвяраю, страціўшы кожнага чацвёртага. Б. Рагуля і многія іншыя беларускія дзеячы ў час вайны не выбралі для сябе ні Гітлера, ні Сталіна, а мелі сваю пазіцыю, стварыўшы ў падполлі Незалежніцкую партыю, што мела на ўвазе дабівацца ў тых умовах адстойвання незалежнасці Беларусі і захавання жыцця яе народа ў той час, калі гэта не цікавіла, па сутнасці, ні адзін з ваюючых на нашай тэрыторыі бакоў. Партыя гэта была знішчана гітлераўцамі. Як гісторык, я магу сказаць, што сапраўдная гісторыя вайны, якой яна была для нас, беларусаў, яшчэ цалкам не напісана. Але з таго, што ўжо вядома зараз, відавочна, што нельга сёння так адназначна кляйміць і аплёўваць людзей, якія таго не заслугоўваюць. Рабіць гэта могуць толькі тыя, каму трэба зноў адрадзіць варожасць паміж той часткаю беларускага народа, што жыве на Бацькаўшчыне, і тымі, каго лёс закінуў на чужыну. Так было доўгія гады, калі беларусы з замежжа нават не маглі наведаць сваіх родных на радзіме, не бачыліся з імі дзесяцігоддзямі, і мы не маглі выязджаць да іх, дапамагаць ім усталёўваць кантакты з той краінаю, адкуль яны родам і дзе іх карані. Гэта былі антычалавечыя, антыгуманныя адносіны. Усе цывілізаваныя краіны ў свеце апякуюць сваіх суродзічаў у замежжы, а ў нас робяць іх ворагамі. Некаму хочацца сёння раз’яднаць сусветную беларускую супольнасць, якая ўжо стварылася на Першым з’ездзе беларусаў свету, што адбыўся ў Мінску ў 1993 годзе. Гэтая супольнасць ужо існуе, жыве і дзейнічае дзеля таго, каб наша краіна адбудоўвалася як незалежная дзяржава, каб у ёй утульна жылося кожнаму чалавеку, незалежна ад яго нацыянальнасці. Грамадская арганізацыя Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” якраз і працуе, каб аб’ядноўваць усіх беларусаў, дзе б яны ні жылі. Таму і нам дасталося ў артыкуле І. Акшэўскага. Ён упікнуў нас у тым, што нашы прадстаўнікі прысутнічаюць на сустрэчах за акіянам і што наша “политическая ориентация достаточно хорошо известна”. Аўтар мае рацыю ў тым, што пра нашу арганізацыю і яе дэмакратычную скіраванасць вядома як у Беларусі, так і ў замежжы. Але за нашымі справамі стаіць інтарэс яднання беларускай нацыі ў такі нялёгкі час. Мы хочам, каб Беларусь была добрай, клапатлівай маці для ўсіх яе сыноў і дачок, што жывуць у розных кутках свету. І мэта гэта ўяўляецца нам дастойнаю, каб працаваць дзеля яе. Мы не шукаем ворагаў, а стараемся знайсці шлях для прымірэння, дзеля лепшай будучыні на нашай зямлі.

Больш за ўсё абурае ў артыкуле І. Акшэўскага тое, што ён арыентаваны на прапагандысцкую падрыхтоўку пэўнай накіраванасці да святкавання 50-годдзя Перамогі над фашызмам. Аўтар спрабуе супроцьпаставіць людзей з розным лёсам, у якім яны самі ў большасці не вінаваты, бо не заўсёды жорсткія ўмовы вайны пакідалі магчымасць выбару для чалавека. Вайна была трагедыяю для ўсіх беларусаў. Няма ў нас чалавека, які не быў бы апалены яе полымем. Жорстка абышлася вайна і з маімі бацькамі, з-за баявых ранаў недажыў да гэтага свята і мой бацька. Таму я думаю, што мы павінны зараз адсвяткаваць 50-годдзе, як сапраўдную, вельмі значную дату для Беларусі, якая спыніла тады крывавую віхуру на нашай зямлі і ў якой не было ніякай нашай віны, але менавіта нам дасталося найбольш гора і страт. Трэба ўшанаваць належным чынам памяць тых, хто загінуў, успомніць і падтрымаць тых сучаснікаў вайны, хто дажыў да сённяшняга дня, але не дачакаўся лепшага жыцця і ўзнагароды за свае пакуты і за сваю мужнасць.

А “Белорусская нива” магла б сёння ўдзяліць больш увагі на сваіх старонках сапраўды гаротнаму становішчу, у якім сёння апынулася беларуская вёска і яе жыхары, што калісьці вынеслі на сваіх плячах і цяжар вайны, і пасляваенную разруху, хто хадзіў з асколкамі і ранамі за плугам (як мой бацька), касіў і малаціў, а атрымліваў за гэта капейкі і сёння вымушаны жыць у жабрацтве. А тым часам газета ўзяла накірунак змагацца з нацыянальнай свядомасцю народа, вышукваць сярод яго ворагаў і аплёўваць яго гістарычныя сімвалы. Дык ці мае маральнае права яна насіць такую назву і прадстаўляць найбольш свядомую частку нашага народа — сялянства, якое спрадвеку было і застаецца носьбітам беларускасці? Як выхадцу з вёскі, мне добра вядома, што не на расійскай мове размаўляюць людзі ў беларускіх сёлах і зусім не родная для іх тая мова, на якой выдаецца газета. І. Акшэўскі называе здраднікамі некаторых беларускіх эмігрантаў, абвінавачвае іх у тым, што яны ў вайну змагаліся супроць свайго народа. Гісторыя ўсё расставіць па сваіх месцах. На маю думку, сп. Акшэўскі (разам з газетаю) сам мае больш рэальныя шансы ў будучым быць залічаным да тых, хто не спрыяў свайму народу ў вызначаны для яго час змагання за незалежнасць і выжыванне.

**Ганна СУРМАЧ**

Апошнім часам на Беларусі ўзнавілася кампанія супраць беларусаў замежжа, ды наогул супраць усяго нацыянальна-беларускага. Сталінска-бэрыеўскія астаткі, як ні дзіўна, знайшлі сабе гэтым разам прытулак у антыбеларускай газэце “Белорусская Нива”..

## Новы беларускі пасол у Англіі.

Пасольства Беларусі ў Англіі ўзначаліць Уладзімір Шчасны. Як нам паведамляюць, ён назначаны Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Беларусі ў гэтай краіне.

У Англію У. Шчасны прыбудзе з Вільні, дзе ён да апошняга часу займаў пасаду радцы беларускага пасла ў Жамойці. Трэба адзначыць, што ў свой час Уладзімір Шчасны быў памагатым міністра замежных спраў Беларусі.

## Трывожныя весткі...

Дэпутат Вярхоўнага савету Уладзімір Грыбанаў з трыбуны паведаміў, што шэраг адказных асоб з вышэйшых эшалонаў улады ня маюць беларускага грамадзянства. Відаць правячая “каманда” Беларусі думае: Какая разница, мы всеравно все советския люди...

## ЯКАЯ ПАЗІЦЫЯ Ў АПАЗІЦЫІ?

Сьвятлана Калінкіна ў газэце “Добры вечар” паведамляе, што ў ходзе дэбатаў, якія праходзілі ў рамках Нацыянальнай асамблеі прагрэсіўных сіл Беларусі, апазіцыйна настроеныя палітыкі выказалі свае адносіны як да прэзыдэнцкай пасады ўвогуле, так і да Аляксандра Лукашэнкі ў прыватнасьці.

Сп. Генадзь Карпенка заявіў, што Партыя народнай згоды ідзе на выбары “з пунктам аб адстаўцы прэзыдэнта”. Беларускі народны фронт лічыць, што зрабіць гэта можа толькі агульнадзяржаўны рэфэрэндум. А сп. Станіслаў Шушкевіч быў менш катэгарычны. “Будзе дастойны Вярхоўны савет — усім знойдзецца дастойная праца”, – заявіў ён.

## Б. Ельцын сказаў...

“Разьвіцьцё нашых двухбаковых адносінаў ня маюць нічога агульнага з якімсьці паглынаньнем Беларусі Расіяй” – сказаў Барыс Ельцын. А вось “каманда” менскіх верхаводаў самі насілу стараюцца ўлезьці ў расейскі з гнілымі зубамі рот. Гэта што? У Менску не разумеюць расейскую мову?

## Катэдра: маці ці мачыха касьцёлаў Беларусі?

"Свабода"

Летась, падчас першай службы ў будынку вернутага каталікам Катэдральнага касьцёлу ў Менску, арцыбіскуп Казімер Сьвёнтак сказаў, што гэты храм будзе як "маці для ўсіх касьцёлаў Беларусі"

Дзеля хутчэйшай рэстаўрацыі і аднаўленьня духоўнага жыцьця пробашчам катэдры быў прызначаны вопытны ва ўсіх справах ксёндз Ян Шуткевіч. Набажэнствы ён пачаў весьці на беларускай і польскай мовах. Пры парафіі наладзілі выданьне беларускамоўнай газэты "Ave Maria".

Але ня так даўно кардынал Сьвёнтак прызначыў у катэдру вікарыем ксяндза Юзэфа Маціса, славака, місіянэра з ордэну вярбістаў. І што мы бачым? Замест набажэнстваў і навукі на мове беларускай ксёндз пачаў усё адпраўляць па-расейску. Нягледзячы на тое, што бальшыня дзетак ходзяць у садкі або школы, дзе выкладаюць па-беларуску. Незадаволеныя і шмат парафіянаў старэйшага веку. Аднак кардынал Сьвёнтак пакуль на гэта не зважае.

Але ж бывае, што ён рэагуе вельмі хутка. Напрыклад, палякі зь мястэчка Лынтупы Пастаўскага раёну паскардзіліся кардыналу, што тамтэйшы ксёндз Чэслаў Куцьмеж "у самы зручны для вернікаў час" паставіў службу на беларускай мове. Пасьля адпаведнай рэакцыі К.Сьвёнтка імша ізноў служыцца па-польску.

Вяртаючыся да катэдры, варта нагадаць, што паўсюль у сьвеце ў галоўных каталіцкіх храмах службы праводзяцца на дзяржаўнай мове краіны. Ня буду казаць пра Польшчу, гэта і так зразумела. Глянем на Вільню, дзе бальшыня каталікоў лічыць сябе палякамі, але ў катэдры служба ідзе толькі палітоўску. У Рызе — толькі па-латыску. Бываюць і на іншых мовах, але гэта не сыстэма, як у нас. У менскай жа катэдры замацоўваюцца мовы дзьвюх суседніх дзяржаваў.

Міжволі ўзьнікае пытаньне: чаго тады вартыя каталікі Беларусі, калі яны ня маюць на сваёй зямлі ксяндза, годнага працы ў галоўным каталіцкім храме краіны? Шкада, калі катэдра стане для нас мачыхай, а не маці.

**Людзьвіг ВАЛЫНЕЦ**

Нам паведамляюць, што кс. Говін у Чыкага старанна займаецца палінізацыяй каталіцкага касьцёла ў Усходняй Эўропе, асабліва на Беларусі. Яго палінізатарская дзейнасьць праводзіцца па розных напрамках, у тым і выпісваньнем ксяндзоў з Усходняе Эўропы ў Чыкага ў польскія парафіі. Нядаўна гасьціў у Чыкаго ( а можа і яшчэ госьціць) біскуп з Горадні Аляксандар Кашкевіч, а ў месяцы маі мае прыбыць сюды кардынал К. Сьвёнтэк з Менску...

Ці-ж гэта не цікава?!..

-- Ты чула, кума? Вольга сваю дачку за Арцёма аддае?
-- Няўжо. Ён жа крыху кульгавы...
-- Так, ён крыху кульгавы, а яна ад яго крыху цяжарная.

## *АДБЫЎСЯ ДРУГІ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ. НЕЧАРГОВЫ.*

ЗВЯЗДА

**20 лютага ў Мінску прайшоў другі з'езд беларусаў свету. Як адзначыў у прывітальным слове прэзідэнт ЗБС «Бацькаўшчына» акадэмік АНБ Радзім Гарэцкі, «мы мусім правесці гэты нечарговы з'езд, каб прыняць пэўныя змяненні ў Статут нашай арганізацыі».**

Як вядома, ЗБС «Бацькаўшчына» як грамадская арганізацыя было зарэгістравана ў канцы снежня 1990 года. З таго часу ў палітычным і грамадскім жыцці Беларусі адбылося нямала змен, нядаўна прыняты новы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб грамадскіх арганізацыях», што, у прыватнасці, і прымусіла склікаць нечарговы з'езд для ўнясення змяненняў у статут.

Нягледзячы на свой экстранны характар, другі з'езд беларусаў свету быў даволі прадстаўнічы. Тут прысутнічалі кіраўнікі беларускіх супольнасцей з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Малдовы, Украіны, краін Прыбалтыкі. Не змаглі асабіста прыбыць у Мінск вядомыя дзеячы беларускай дыяспары з далёкай Аўстраліі, Канады, ЗША, Англіі. Усе яны дэлегавалі свае «права голасу» кіраўніцтву ЗБС.

Пры кворуме ў 58 чалавек членамі Вялікай рады ЗБС былі ўнесены папраўкі і змены ў Статут ЗБС «Бацькаўшчына». Адбыліся давыбары членаў Вялікай рады.

Некаторыя ўскладненні ўзніклі з кандыдатурамі Б. Сачанкі і У. Глода.

Пісьменніку Б. Сачанку, у прыватнасці, які шмат гадоў займаецца «эмігранцкай» тэмай і напісаў нямала артыкулаў пра ваенную беларускую эміграцыю, былі выказаны прэтэнзіі наконт яго «камуністычнай ідэалогіі». «Пакаянне» вядомага пісьменніка не адбылося з прычыны яго адсутнасці на з'ездзе.

Трэба сказаць, што з часу, які мінуў з Першага з'езда беларусаў свету, дзе адбылося паяднанне ўсіх беларусаў, іх прымірэнне, у нашай свядомасці пачалі адбывацца пэўныя зрухі.

Але, тым не менш, рэцыдывы непрымірымай варожасці паміж людзьмі на ідэалагічнай глебе ўсё яшчэ, як бачым, праяўляюцца.

Члены Вялікай рады ЗБС «Бацькаўшчына» выказалі сваё пажаданне кіраўніцтву арганізацыі акрэсліцца ў адносінах да святкавання 50-годдзя Перамогі над фашызмам і ўдзелу ў ім суайчыннікаў з далёкага і блізкага замежжа.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Прускі!

Перасылаю ахвяру на "Беларускі Дайджэст" і таксама на Музэй у Гайнаўцы.

Дзякую за павялічэньне друку, лягчэй чытаць... Мне падабаецца Ваш адказ той асобе, што хацела ведаць колькі ў Вас падпішчыкаў.

З пашанай М. С.

*Дзякуем за ліст. Мы ведаем, што большасьць нашых чытачоў у сталым веку і чытаць драбнейшы шрыфт для некаторых вельмі цяжка. Стараемся пажаданьні нашых чытачоў задаволіць.*

В. Паважаны Сп. Рэдактар!

Шчыра дзякую за Вашу рэгулярна прысыланую газэту, якую я чытаю з вялікім задавальненьнем. На маю думку, варта было-б зьмяшчаць часам артыкулы з анты-беларускае прэсы... У большасьці Вы публікуеце пераважна пагляды апазыцыйнай прэсы... Залучаю ахвяру... і жадаю надалей посьпехаў у Вашай працы...

Др. У. Н.

*Дзякуем за параду. Будзем старацца нешта зрабіць у гэтым напрамку, хоць атрымоўваць патрэбны матэрыял ня так лёгка. Дзякуем за дапамогу.*

Вельмі шаноўны выдавец М. Прускі!

Пры гэтым перасылаю ахвяру на выдавецтва "Беларускага Дайджэсту".

Прабачце, што не напісаў Вам раней, бо Калядныя сьвяты ды Вадохрышча забрала шмат часу... У нас цяпер вельмі гарачае аўстралійскае лета...

Дзякую Вам за так адданую і вельмі карысную выдавецкую працу і жадаю Вам многа здароўя, радасьці і любві на многія годы.

Дапамажы Вам Божа!

а. М. Б.

*Дзякуем Вам за такія прыгожыя словы і жадаем Вам усяго найлепшага! Просім дапамагаць нашай газэце дзеля яе росту і пашырэньня.*

Спадар Рэдактар!

...Чаму Вы не публікуеце прозьвішчы тых людзей, якія прысылаюць Вам падпіску? Ці ня варта пераняць добрую практыку ад "Беларуса"?..

Г. М.

*Не, ня варта, бо паза газэтаю "Беларус" (якую я, дарэчы, вельмі шаную) ніякія іншыя выданьні гэтага не практыкуюць. Ёсьць людзі, якія прысылаюць большую ахвяру, а ёсьць людзі, якія прысылаюць меншую. Навошта іх супастаўляць? Вось на Сакавіковы № газэты адзін з нашых чытачоў прыслаў 200.00 даль з просьбай выдаць гэты № на 12 бачынаў, але пажадаў гэтым не хваліцца "дзеля свае скромнасьці і вялікае Сакавіковае справы", як ён выказаў у сваім кароткім лісьце. І няхай гэта застаецца толькі да ведама выдавецтва.*

*Але ў канцы кожнага году мы публікуем празьвішчы ўсіх нашых спагаднікаў. Хто ведае, можа мы памыляемся, але нам здаецца, што так найлепш.*

*Дык што? Дзеля гэтае прычыны не падтрымоўваеш нашу газэту? Калі так, дык прынамсі напішы нам і паведамі,каб газэту табе не высылаць, – такім чынам мы заашчадзім на почтовых выдатках... бо кожны цэнт для нас вельмі дарагі..*

## Спазнайце сваіх продкаў, сыны Беларусі!

Гаспадар хутара дзе-небудзь пад Пінскам, напэўна, не ўяўляў, што праўнукі яго ўбачаць Божы сьвет не сярод родных пушчаў, а недзе на Далёкім Усходзе ці ўвогуле за акіянам, у Каліфорніі ці Огайо. Зараз настаў, нарэшце, час адшукаць тыя ніці лёсаў людзкіх, якія зьвязваюць Уладзівасток з Наваградкам, Буэнас-Айрэс ці Мэльбурн з Палесьсем...

Дзякуй Богу, беларускія архівы больш не зьяўляюцца "сакрэтным фондам партыі". Паставіць іх на службу чалавеку,ператварыць у сямейны архіў кожнага жыхара і кожнага выхадца з Беларусі — вось новая, гуманная і высакародная, пэрспектыва. Нацыянальны архіўны фонд Беларусі захоўвае звыш 20 мільёнаў справаў, якія назапашваліся на працягу некалькіх стагодзьдзяў. Гэта ў прынцыпе дазваляе адшукаць даволі аддаленых продкаў бадай кожнага з нашых суайчыньнікаў. Трэба было бачыць зьдзіўленьне аднаго з іх, калі ён атрымаў дакумэнтальныя пацьверджаньні свайго паходжаньня са старажытнага шляхецкага роду, заснавальнік якога жыў на пачатку 16 стагодзьдзя! Можна не сумнявацца, што на перадзе нас чакае яшчэ шмат падобных шчасьлівых знаходак. Калі-некалі знойдзеныя дакумэнты праліваюць сьвятло на сапраўдныя абставіны і недалёкага часу, на падзеі першай і другой сусьветнай войнаў. Мы разумеем, што некаторыя са звычайных канцалярскіх папер зьяўляюцца для кагосьці дарагім сьведчаньнем аб блізкім і родным чалавеку... Ці аб аддаленым, але прамым, непасрэдным продку — носьбіце таго-ж самага, як у бацькі ці ў маці, прозьвішча. Прозьвішча беларускага, расейскага, польскага, габрэйскага ці татарскага. Беларусь-жа на працягу стагодзьдзяў была родным домам для людзей розных нацыяў і веравызнаньняў. І праваслаўныя, і каталіцкія, і ўніяцкія, і іўдэйскія мэтрычныя кнігі былога Паўночна-Заходняга краю захаваліся ў нашых архівах у досыць вялікай колькасьці. Такім чынам, існуе добрая магчымасьць прасачыць паходжаньне многіх і многіх нашчадкаў выхадцаў з нашай агульнай Бацькаўшчыны.

Калі вы жадаеце атрымаць дакумэнтальныя зьвесткі аб сваіх далёкіх і блізкіх продках з Беларусі, калі ласка, зьвяртайцеся ў **Беларускае Гэнеалагічнае таварыства:** вуль. Калектарная, 10, пакой 208, 220048 Менск, Беларусь, тэль. **/0172/208760, /172/208830,** факс (0172)205120. **БГТ** — навуковая, культурна-асьветніцкая, недзяржаўная і некамерцыйная арганізацыя, галоўная мэта якой — спрыяць дасьледваньню гэнеалогіі грамадзян ураджэнцаў Беларусі. У нас ёсьць падставы разьлічваць на посьпех гэтай гуманнай місыі, адшукаць карані і скласьці радавод літэральна кожнай асобы, чыя сямейная гісторыя звязана з Беларусьсю.

*(Гэтае паведвмленьне даслала нам Пасольства Беларусі ў ЗША.)*

## *Далейшыя*

**Ахвяры на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына:**

| | |
|---|---|
| 38. Кастусь Верабей | $15.00 |
| 39. Марыя Дэмковіч | $50.00 |
| 40. Мікола Галоўка | $25.00 |
| 41. Мікола Сьнежка | $50.00 |
| Разам: | **$140.00** |
| Папярэднія ахвяры: | $1155.00 |
| Разам: | **$1295.00** |

**Чакаем далейшых ахвяраў! Хто наступны?!**

— Павінен вам сказаць, што ваш сабака ізноў усю ноч выў пад маім вакном, — кажа сусед суседу.
— Не хвалюйцеся. З ім нічога не здарылася, проста ён днём выспаўся.

— Калі мая жонка пачынае сьпяваць, я выходжу з дому.
— Чаму?
— Людзі могуць падумаць, што я яе б'ю.

— Палячы, лекар, сярэдзіна баліць.
— Нагніся, — кажа фельчар.
Нагнулася баба, а лекар пытае:
— Лягчэй?
— Ага, даражэнькі.
— Дык гэтак і хадзі.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ

**у камерцыйных банках на 9 сакавіка 1995 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Беларусбанк | 11484 11542** | 12120* | 7623 7660** | 7979* | 2.80* | 3.00* | 239-250, 067 |
| БелБалтыя | 11550 | 11800 | 7500 | 7750 | 2.40 | 2.50 | |

*З сёлетнімі 77-мі ўгодкамі 25 Сакавіка выдавецтва наша прывіталі:*

1. Спадар Паўла Гуз, ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.

2. Дастойны пасол Сяргей Мартынаў, ад Пасольства Беларусі ў ЗША.

3. Спадар Расьціслаў Завістовіч, ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.

4. В. Ш. Спадар Віталі Цярпіцкі, ад Беларускай Цэнтральнай Рады.

5. Спадар Мікола Латушкін, ад Беларуска Амэрыканскай Рады ў Чыкаго.

*Паважанае Спадарства! Шчырае Вам Усім дзякуй!*